наша
# СВАБОДА
№21 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 ТРАЎНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


«МОМАНТ ІСЦІНЫ» ДЛЯ...
стар.6

# Святая памяць Перамогі

**Другая сусветная вайна мела тую адметнасць, што мірнага насельніцтва загінула болей, чым палегла салдатаў на франтах. З 30 мільёнаў чалавечых стратаў тагачаснага СССР на ваенных прыпадае 13 мільёнаў.**

На Беларусі вайна з гітлераўскай Германіяй не абмінула ніводны дом. 4 мільёнаў чалавек не далічылася Беларусь (у межах на 22 чэрвеня 1941 года) у дзень Перамогі. Таму 9 траўня для нашага народа — дзень святога смутку. Пра паўтара мільёна беларускіх салдатаў, што змагаліся на ўсіх франтах, пра два мільёны тых пакутнікаў вайны, што не дажылі да дня Перамогі. Пра вогненныя вёскі. Пра мільён пасляваенных удоваў, якія гадавалі дзяцей і працавалі за сябе і за палеглага мужа. Пра фашысцкія канцлагеры. Пра зламаныя лёсы. 9 траўня — найперш свята ветэранаў.

Яны захоўваюць жывую памяць пра сяброў і родных, якіх забрала ваеннае ліхалецце, пра пакуты і гора, якіх давялося спазнаць у пекле вайны. Састарэлыя франтавікі і партызаны, знясіленыя працай удовы сыходзяць з жыцця, з кожным годам на 9 траўня меншаюць шэрагі старых людзей, якія зведалі жахі вайны на ўласным лёсе, якія паўстагоддзя неслі яе шрамы на ўласным сэрцы.

Калі вайна пачыналася, мала хто мог думаць, што яна зацягнецца на чатыры гады і прынясе столькі бедстваў. Калі вайна закончылася і перамогу адзначалі салюты, мала хто думаў, што пасля такіх пакутаў, якія перацярпела ўся Еўропа, могуць выбухаць іншыя войны. Аднак, без іх не абышлося. Наўрад ці тыя маладыя людзі, якім пашчасціла застацца жывымі, якія пасля вайны ажаніліся і нарадзілі дзетак, маглі ў 1945 годзе ўявіць сабе, што страцяць сваіх дзяцей на новай вайне і будуць наведваць іх ці сваіх унукаў на могілках. Многім нашым сем'ям давялося перажыць і такое гора, калі СССР распачаў вайну ў Афганістане.


Партызанскі пасляваенны парад у Мінску. 16 ліпеня 1944 года

Ёсць яны сярод старых людзей, якія 9 траўня выходзяць на вуліцы, каб узгадаць з аднагодкамі дні маладосці, аднявіць на гадзіну пачуццё шчасця, якое яны зведалі 55 гадоў таму, калі настаў мір. Засталіся сярод ветэранаў і тыя, хто сустракаў 9 траўня 1945 года ў Берліне, а праз два гады – у сібірскім канцлагеры.

Шмат падзеяў прыпала на 55 пасляваенных гадоў. Усе яны так ці інакш звязаныя з тым днём, калі гітлераўская Германія ўвечары 8 траўня капітулявала, а ўноч на 9-е мільёны салдатаў саюзных войскаў стрэлямі ў паветра абвясцілі Перамогу. ■

# Каму смутак, каму гарадское свята

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Так атрымалася, што на аўторак, 9 траўня гэтага года, прыйшлося адразу два незвычайныя дні ў календары. У гэты дзень святкуецца Дзень Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У праваслаўных жыхароў Беларусі ў гэты дзень – Радуніца, дзень ушанавання памерлых продкаў.**

Здавалася б, дзень хутчэй трагічны, чым святочны. Ва ўсялякім разе ніяк не прыдатны для весялосці. Але мінскія ўлады вырашылі інакш – і перанеслі на гэты дзень яшчэ і святкаванне Дня горада, якое ўжо колькі гадоў адзначалася 3 ліпеня. Трэба разумець, у мэтах эканоміі.

У выніку праграма святочных мерапрыемстваў у сталіцы 9 траўня стала пэўным чынам нагадваць танцы на магілках. З аднаго боку – выставы тавараў і конкурсы самадзейных калектываў «Паказваюць раёны горада», маладзёжныя дыскатэкі, масавыя гулянні і святочны салют, з другога — урачыстыя ўскладанні вянкоў і кветак, дзвесце дадатковых аўтобусаў для падарожжаў на мінскія могілкі...

«Ніводная іншая краіна не адзначае так шырока 55-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, як Беларусь», — прызнаўся нядаўна А.Лукашэнка. Сапраўды, ні ў адной краіне гэтая дата не адзначаецца так пампезна. 9 траўня па Мінску працуюць танкі і «тэхніка грамадзянскага прызначэння», пройдуць калоны вайсковцаў і працоўных, студэнтаў і выпускнікоў, спартоўцаў і БПСМаўцаў, праляцяць самалёты і верталёты... Мілітарызм пырскае з усіх бакоў зусім неадпаведна замесцу як Дня Перамогі, так і Радуніцы. Ахвярамі гэтага ўрадавага мілітарызму становімся мы, беларусы.


Фота IREX/ProMedia

Замест таго каб па-чалавечы ўшанаваць памяць памерлых і тых, хто загінуў на франтах Другой сусветнай вайны, улады зноў размахваюць зброяй перад носам Захаду. Нагода Дня Перамогі выкарыстоўваецца для чарговай серыі палітычных заяваў. Напрыклад, 3 траўня, падчас візіту на мемарыяльны комплекс «Прохараўскае поле», А.Лукашэнка заявіў: «Магілы савецкіх салдатаў па ўсёй Еўропе крычаць – жывіце разам!» Такім чынам, А.Лукашэнка спрабаваў пераканаць расійскага і ўкраінскага прэзідэнтаў у неабходнасці аднаўлення СССР. Атрымалася – нейкая сумная пародыя.

І чаму не чутныя заклікі жыць разам з усёй Еўропай, з усімі краінамі, якія разам перамагалі гітлераўскі фашызм. Гэта было б найлепшым адраджэннем таго духу, які веяў у траўні 1945 года. На жаль, у гэтыя шанаваныя народам майскія дні адраджаецца традыцыя зноў лічыць сябе «аплотам міру».

Штодня беларускаму народу нагадваюць: "Ты пераможца!" — каб адцягнуць увагу ад таго, што робіцца навокал сёння. Падзеі 55-гадовай даўніны — вельмі важныя для гісторыі, яны павучаюць жыць у міры і спакоі. Не будзем забываць урокі гісторыі.

Святкаванне дня горада мусіць стаць атрыбутам мірнага жыцця мінчукоў. Улады ж прапаноўваюць адзначыць яго выступам дзіцячых калектываў «Дзякуй за мірнае неба», вялікім святочным гуляннем «У шэсць гадзінаў вечара пасля вайны», канцэртамі аркестраў і ансамбляў міністэрства абароны і г.д. Не забудземся яшчэ пра парад і дэманстрацыю.

«Хочаш міру – рыхтуйся да вайны», – кажа вядомая прымаўка. Але, можа, хопіць ужо вайны? Надышоў час для міру? ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **8 траўня ўсе ветэраны і інваліды Другой сусветнай вайны змогуць паўгадзіны размаўляць па тэлефоне з сябрамі па Беларусі. Як паведаміла аб'яднанне «Белтэлекам», гэта будзе яе падарункам.** Бясплатна пазваніць у іншыя гарады і вёскі Беларусі можна будзе з хатняга тэлефона, калі ягоны нумар зарэгістраваны на ўдзельніка або інваліда вайны. Бясплатная паслуга гэтаксама будзе прадастаўляцца на пунктах тэлефонных перамоваў і ў паштовых аддзяленнях, паведамляюць беларускія сувязісты. Цікава, што гэтым падарункам могуць скарыстацца не толькі беларускія ўдзельнікі і інваліды вайны, але і замежныя – тыя, хто прыедзе ў Беларусь адзначыць Дзень Перамогі.

■ **Дзяржаўны дэпартамент ЗША абвясціў сем краінаў «спонсарамі міжнароднага тэрарызму».** Сярод іх каардынатар па барацьбе з тэрарызмам Майк Шыхан назваў і Кубу. У першую чаргу гэта звязанае з тым, што вядомыя замежныя тэрарысты хаваліся і хаваюцца на выспе. У прыватнасці, па словах М.Шыхана, Куба звязаная з дзвюма тэрарыстычнымі арганізацыямі – Рэвалюцыйнымі ўзброенымі сіламі Калумбіі і Нацыянальнай вызвольнай арміяй. Абедзве яны захоўваюць сваю прысутнасць на «выспе Свабоды». Апроч Кубы, у «чорны спіс» таксама ўваходзяць Лівія, Іран, Ірак, Паўночная Карэя, Судан і Сірыя.

■ **У нядзелю ў Ізраіль прыляціць на сталае месца жыхарства мільённы эмігрант з краінаў СНД. Пра гэта паведаміла радыё «Эхо Москвы».** У 1989 годзе пачалася вялікая «алія», або эміграцыя савецкіх грамадзянаў у Ізраіль. Менавіта з гэтага часу ізраільскія ўлады пачалі падлічваць колькасць эмігрантаў з СССР. З улікам сярэднястатыстычнай колькасці пасажыраў, якія штодня прыбываюць у Тэль-Авіўскі аэрапорт, быў вызначаны дзень прылёту юбілейнага эмігранта – 7 траўня – і нават рэйс, якім ён прыляціць – №614 авіякампаніі «Эль Аль». Імя юбіляра пакуль невядомае. У аэрапорце яго будуць сустракаць прэм'ер-міністр Ізраіля, міністр абсорбцыі, дэпутаты кнесета.

Наступны нумар газеты выйдзе
**12 траўня**

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**950**



# Выкрадальнік часу

Павел ЖУК

Вынікі апошніх шасці гадоў паказалі, што заявы кшталту: «Я свой народ за цывілізаваным светам не павяду» ці абяцанні вярнуцца ў 1990-ы год, цалкам выкананыя. Але ніхто не лічыў, што гэта каштуе нашаму народу. Сацыёлагі адзначаюць устойлівы рост колькасці людзей, што жывуць горш і горш з кожным годам. Зараз такіх болей за 85%. Абвешчаны зварот у мінулае адбыўся. З кожным днём Беларусь усё далей адсоўваецца на задворкі Еўропы.

Дык што ж мы згубілі ці больш дакладна – што ў нас адабралі?

Адабралі самае галоўнае, тое, што ўжо ніколі не вернецца, – час! Укралі незваротную частку жыцця цэлага народа. Мы нагадваем племя дзікуноў, якія таксама ядуць, п'юць, спяць, ходзяць на паляванне (мы – на працу), але застаюцца па-за жыццём і выклікаюць здзіўленне і жаль акружаючых. «Барацьба за ўраджай» і будоўля лядовых палацаў, выкананне дэкрэтаў і нерэальных планаў – марныя, бо забіралі наш час, не даючы ўзамен нічога. Сышла ў нябыт астранамічная лічба часу. Дзесяць мільёнаў грамадзянаў Беларусі па волі аднаго палітыка **марна** пражылі шэсць гадоў. Мы, нацыя, згубілі разам **60.000.000** гадоў!!! Калі вымераць гэта чалавечым жыццём і ўзяць яго сярэднюю даўжыню для нашага чалавека, якая зменшылася і складае зараз каля 60 гадоў для мужчын, дык атрымліваецца, што за гэты час мы згубілі **адзін мільён жыццяў!!!** Па сутнасці, мільён чалавек выкінутыя з жыцця. Гэтыя людзі не стварылі нічога: не нарадзілі дзяцей, не пабудавалі дамы, не вучыліся, не вырошчвалі хлеб. Кожны дзень існавання цяперашняга рэжыму мы губляем час, які вымяраецца жыццём прыкладна 460 чалавек. Калі прадоўжыць аналогію, то атрымалася, што мы страцілі дзесятую частку нацыі. Без уліку Чарнобыля, міграцыі, хваробаў, крыміналу і г.д. Гэта сапраўдная вайна і сапраўдны **генацыд** супраць свайго народа. Вайна з фашыстамі забрала жыцці двух з паловай мільёнаў беларусаў. Гэта каля 150.000.000 гадоў часу. Чалавек, які хваліў Гітлера і хоча аб'яднацца з Расіяй, робіць тое самае, і калі яго не спыніць, то перагоніць настаўніка.

# Вызначаны парадак вылучэння дэлегатаў

Марат ГАРАВЫ

**Аргкамітэт Усебеларускага з'езда вызначыў парадак вылучэння дэлегатаў ад тэрыторыяў і арганізацыяў для ўдзелу ў працы форуму.**

Упрэс-рэлізе сакратарыята з'езда адзначаецца, што ў мэтах забеспячэння шырокага доступу грамадскасці да абмеркавання будучыні беларускай дзяржавы прынята рашэнне аб тым, што для ўдзелу ў першай сесіі Усебеларускага з'езда жыхары кожнага раёна, горада і раёна ў горадзе маюць права вылучаць сваіх дэлегатаў на сходах.

Прычым, колькасць прадстаўнікоў ад кожнай адміністрацыйнай адзінкі залежыць ад колькасці выбаршчыкаў, якія жывуць на яе тэрыторыі. Норма прадстаўніцтва – 1 дэлегат ад 10 тысяч выбаршчыкаў. Каб забяспечыць належныя ўмовы вылучэння дэлегатаў, месца, дата і час правядзення сходаў павінны абавязкова ўзгадняцца з аргкамітэтам з'езда.

Тыя арганізацыі, гаворыцца ў прэс-рэлізе, якія зарэгістраваліся ў аргкамітэце, маюць права вылучаць дэлегатаў, зыходзячы з наступных квотаў: рэспубліканскія грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі, прафесійныя і творчыя саюзы, нацыянальныя зямляцтвы – аднаго дэлегата ад кіруючага органа і яшчэ па адным – ад кожнай сваёй абласной структуры. Абласныя, гарадскія і раённыя грамадскія арганізацыі таксама маюць права вылучыць на Усебеларускі з'езд па адным дэлегаце.

У дакументе падкрэсліваецца, што пратаколы сходаў па вылучэнні дэлегатаў павінны быць прадстаўленыя ў сакратарыят аргкамітэта да пачатку чэрвеня бягучага года.

Апрача таго, дэлегатамі з'езда таксама могуць стаць дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, калі яны зарэгіструюцца ў сакратарыяце аргкамітэта не пазней, чым за два тыдні да пачатку працы з'езда.

Больш падрабязныя тлумачэнні па парадку вылучэння дэлегатаў можна атрымаць у сакратарыяце аргкамітэта Усебеларускага з'езда па тэлефоне (017) 223-65-29. ■

# Папраўкі ў выбарчы кодэкс накіраваныя ў Палату прадстаўнікоў

Юрый ПАЦЁМКІН

Папраўкі ў Выбарчы кодэкс Беларусі, выпрацаваныя ў межах дыялога грамадска-палітычных сіл экспертнай групай па рэфармаванні выбарчага заканадаўства, бліжэйшым часам паступяць у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Такое рашэнне было прынята 3 мая ў Мінску на чарговым пленарным пасяджэнні дыялога грамадска-палітычных сілаў.

Змяненні і дапаўненні ў Выбарчы кодэкс Беларусі сталі вынікам пяці пасяджэнняў экспертнай групы. Папраўкі закранулі 16 артыкулаў Выбарчага кодэкса. У прыватнасці, эксперты прапаноўваюць змяніць парадак фарміравання выбарчых камісій, каб забараніць адну трэць ад іх складу за прадстаўнікамі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Прапаноўваецца таксама пашырыць правы ўнутраных назіральнікаў за выбарамі. Апрача таго, эксперты лічаць неабходным выключыць з Выбарчага кодэкса палажэнне аб датэрміновым галасаванні і ўнесці замест яго сістэму галасавання па адмацавальных талонах.

Варта адзначыць таксама ўзмацненне жорсткасці парадку вылучэння кандыдатаў у дэпутаты ад працоўных калектываў. З гэтай мэтай у Кодэкс уводзіцца палажэнне, згодна з якім гэтае права надаецца працоўным калектывам, якія складаюцца не менш чым з адной тысячы чалавек (раней было 300 чалавек). Адначасова з гэтым прапануецца прадаставіць права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты грамадскім аб'яднанням, якія налічваюць у сваіх радах звыш за адну тысячу чалавек (гэтая норма ў ранейшай рэдакцыі закона адсутнічала).

Трэба адзначыць таксама, што да таго, як гэтыя папраўкі могуць быць вынесены на разгляд парламента, яны павінны прайсці экспертызу ў цэнтры законапраектнай дзейнасці адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, у галоўным дзяржаўна-прававым упраўленні адміністрацыі прэзідэнта і экспертна-прававым упраўленні Палаты прадстаўнікоў, што запатрабуе значнага часу. Між тым, да заканчэння чарговай сесіі парламента, якая можа зацвердзіць гэтыя змяненні, застаецца менш за два месяцы. ■

# «Мінімалка» ўзрасла да 2.600

Дзмітрый УЛАСАЎ

**Нязначнае падвышэнне мінімальнай заработнай платы звязанае з абмежаванымі магчымасцямі дзяржаўнага бюджэту. Пра гэта паведаміла БелаПАН крыніца ў беларускім урадзе.**

Як вядома, з 1 траўня мінімальная заработная плата павялічылася з 2.200 да 2.600 рублёў, або на 18,2%, а тарыфная стаўка першага разраду – з 4.500 да 5.200 рублёў, або на 15,6%. Між тым, рост спажывецкіх цэнаў з пачатку года склаў прыкладна 40%. Нагадаем, дарэчы, што папярэдняе павышэнне МЗП адбылося 1 студзеня.

Раней рост мінімальнага заробку звычайна кампенсаваў рост цэн.

Паводле словаў крыніцы, вакол цяперашняга павышэння «мінімалкі» ў міністэрствах і ведамствах разгарэлася гарачая дыскусія. Менавіта таму да апошняга моманту не быў вядомы памер яе павелічэння. Акрамя таго, пакуль так і не вырашанае пытанне аб змяненні сістэмы аплаты працы ў бюджэтнай сферы, падаткаабкладання і іншых відаў плацяжоў, якое заключаецца ў адмове ад прывязкі да мінімальнай зарплаты. Пытанне аб гэтым было паднятае на ўрадзе яшчэ зімой. ■

ФОТАФАКТ



Берлін. 1945 год. Як давалі немцам...



... так даем і сваім. Беларусь. 90-е гады

# БПСМ збіраецца ў «палату»

Кірэй МАНУЙЛАЎ

Калі А.Лукашэнка на чарговым з'ездзе БПСМ, які праходзіў на мінулым тыдні, назваў бэпэсэмаўцаў у перспектыве важнейшым кадравым рэзервам Беларусі і выказаў думку, што неабходна, каб члены гэтай арганізацыі ўвайшлі ў новы склад Нацсходу, «лукамольцы» з гатоўнасцю адказалі «ёсць». Тым больш што ўжо маюць вопыт удзелу ў леташніх псеўдавыбарах у мясцовыя органы ўлады. Хоць, памятаецца, па першым часе існавання БПСМ упарта і ўрачыста давадзіў усім, што займацца палітыкай наогул не будзе.

На пазаўчарашняй прэс-канферэнцыі Сева Янчэўскі расказваў, як БПСМ спрычыніцца да таго, «каб парламент быў нармальны». Па словах галоўнага бэпэсэмаўца, ён упэўнены, што ўсе высунутыя непасрэдна ад арганізацыі кандыдаты – «кроў з носа» – стануць дэпутатамі. Гэта будзе, відаць, сам Янчэўскі, які «мог бы прынесці карысць і ў парламенце» і «з ахвотай прыме ўдзел у выбарах», і яшчэ 1-2 чалавекі. Быццам бы сціпла, але, магчыма, квотная ўстаноўка ўладаў для «лукамола» колькасна менавіта такая. Бо і без іх ёсць каго прасоўваць.

Разам з тым БПСМ у кожнай акрузе мае намеры вызначыць аднаго канкрэтнага кандыдата, якому будзе аказваць адміністрацыйна-інфармацыйнае садзейнічанне. Галоўнымі крытэрыямі для падтрымкі будуць «сумленнасць і прыстойнасць» кандыдата і іхняе «стаўленне да палітычнага і сацыяльна-эканамічнага курсу прэзідэнта». А вось тым кандыдатам, якія «не любяць Беларусь», бэпэсэмаўцы, наадварот, будуць актыўна процідзейнічаць. Цікава толькі, як? ■

# Шматдзетныя маці пагражаюць галадоўкай

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Аб'явіць бестэрміновую галадоўку пачынаючы з 15 траўня збіраюцца некалькі шматдзетных маці, якія з'яўляюцца сябрамі арганізацыі «Крыніца міласэрнасці». Прычынаю, якая, па думку патэнцыйных галадоўцаў, вымушае пайсці іх на такі рашучы крок, з'яўляецца тое, што ўжо чатыры месяцы гэтай самай арганізацыі шматдзетных маці «Крыніца міласэрнасці» не даюць абяцанага раней памяшкання на вуліцы Леніна, што ў цэнтры горада. Кіраўніцтва «Крыніцы» ўжо накіроўвала старшыні Гродзенскага гарвыканкама Анатолю Пашкевічу афіцыйны запыт і запісвалiся да яго на прыём, аднак у першым выпадку прыйшоў не вельмі зразумелы адказ, з якога можна высветліць хіба што, быццам бы, будынак, які просяць жанчыны, раптоўна вырашылі рамантаваць. Да сябе ж на прыём Пашкевіч жанчын так і не пусціў, спасылаючыся на вялікую стомленасць.

У прынцыпе, магчыма, варта было б паспрабаваць выпрасіць іншае памяшканне пад офіс для арганізацыі, але для гэтага трэба як мінімум знайсці новы юрыдычны адрас і заплаціць пры гэтым дваццаць мінімальных заробкаў, а свабодных фінансавых грошай у мацярок і зараз, і ў прынцыпе проста не назіраецца.

Такім чынам, яны аб'явілі пра галадоўку і паставілі аб гэтым у вядомасць кіраўніцтва гарвыканкама з надзеяй, што тое ўсё ж прыме адпаведныя меры і «Крыніца міласэрнасці» атрымае памяшканне да наступлення даты «ікс». ■

# Дык дзе быў падсудны 27 ліпеня?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У Мінскім гарадскім судзе працягваецца разгляд крымінальнай справы Валерыя Шчукіна і Міколы Статкевіча па абвінавачванні іх у арганізацыі вулічных беспарадкаў 27 ліпеня і 17 кастрычніка мінулага года падчас акцыяў «Дзень Незалежнасці» і «Марш Свабоды» адпаведна.

Зараз у разглядзе справы стадыя допыту сведак, і пры гэтым здарыўся казус. Як сведкі з боку міліцыі, так і некаторыя з боку дэманстрантаў заяўлялі, што Валеры Шчукін 27 ліпеня прысутнічаў на акцыі, а міліцыянты нават заявілі, што гэта менавіта ён арганізоўваў праз мегафон рух калоны. Але ж на самой справе гэтага быць проста не магло, бо 27 ліпеня Валеры Шчукін знаходзіўся на нарах у спецпрыёмніку-размеркавальніку па вуліцы Акрэсціна, дзе адбываў пятнаццацісутачны адміністратыўны арышт за ўдзел у святкаванні «праводаў прэзідэнта» 21 ліпеня. Якім чынам яго маглі ўбачыць міліцыянты – застаецца незразумелым, бо, каб пераблытаць дэпутата Шчукіна з кімсьці іншым, трэба быць бадай што абсалютна сляпым.

Тым часам на самім працэсе засталося дапытаць яшчэ каля дзесяці сведак, пасля чаго слова возьме пракурор Ганчарова, якую часова замяняе яе калега Пак. ■

# Моладзь супраць наркотыкаў

Ірына ТОЎСЦІК

Акцыя «Моладзь XXI стагоддзя супраць СНІДу і наркотыкаў» прыцягнула немалую ўвагу грамадства, бо праблема наркаманіі сталася ў нашай краіне абвостранай. Пры саўдзеле Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу і аддзела па справах моладзі адміністрацыі Першамайскага раёна горада Мінска на працягу месяца ў многіх вучэльнях і кінатэатрах горада ладзіліся прагляды дакументальных фільмаў пра наркаманію і СНІД, а таксама праводзіліся лекцыі на тую ж тэму. Праўда, тых, хто ўсё ж уцягнуўся ў «справу», гэтай акцыяй усхвалявалась цяжка. Таму яна была разлічана перш за ўсё на тую частку людзей, якім не абыякавае іх здароўе і здароўе іх дзяцей. На запрашэнне паўдзельнічаць у акцыі адгукнуліся такія беларускія рок-гурты, як «Зялёны чай», «Змест», «Мембрана», «Навігатар» і інш. Яны выконвалі песні на розныя тэмы, але дамінавала тэма «супраць СНІДу і наркотыкаў». ■

# Адвакаты Чыгіра сказалі сваё слова

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**На працэсе ў Мінскім гарадскім судзе завяршыліся судовыя спрэчкі. Адвакаты ў сваіх прамовах заявілі пра палітычныя матывы праследу экс-прэм'ера, пра фальсіфікацыю следчымі доказаў абвінавачвання і пра безумоўную невінаватасць падабароннага. «Калі прысуд будзе абвінаваўчым, гэта будзе прысуд ад імя Аляксандра Лукашэнкі, а не ад імя беларускага народа», – папярэдзілі абаронцы суддзяў.**

## Юлія Чыгір

Жонка экс-прэм'ера, якая абараняе яго ў якасці адвоката ляшчэ з часоў утрымання ў следчым ізалятары, адзначыла ў сваім выступе, што мужа арыштавалі за дзень да ўручэння яму пасведчання кандыдата ў прэзідэнты на выбарах, якія летась спрабаваў правесці законны Вярхоўны Савет. Папярэдне ў следчыя органы яго нават не выклікалі, што таксама дае падставы казаць пра палітычныя прычыны праследу. Але галоўнае, хто заказаў гэтую «музыку»? Адвакат звярнула ўвагу суддзяў на тое, што першыя абвінавачванні Чыгіра грунтаваліся не на матэрыялах следства, якое тады і не пачыналася, а на высновах сакратара савета бяспекі Віктара Шэймана, які ў лютым адправіў Аляксандру Лукашэнку адпаведную «дакладную». Гэтых асобаў абаронца і лічыць галоўнымі адказнымі за незаконны, на яе думку, арышт Міхаіла Чыгіра і ўтрыманне за кратамі на працягу васьмі месяцаў.

«Супраць былога прэм'ера, які адважыўся кінуць выклік рэжыму, былі кінутыя рэпрэсійныя сродкі дзяржаўнага апарата», – падкрэсліла Юлія Чыгір. Яна нагадала, што ўжо на трэці дзень пасля затрымання былога кіраўніка Белаграпрамбанка Чыгіра начальнік следчага ўпраўлення міліцыі Лаўрэнюк публічна абвінаваціў у крадзяжы мільёна долараў банкаўскіх грошай, хаця следства фактычна не пачыналася. Прыцытавала Юлія Чыгір і заявы А.Лукашэнкі, які ўвогуле, не чакаючы суда, назваў Чыгіра злачынцам. Ю.Чыгір упэўненая, што такія заявы рабіліся, каб знішчыць Чыгіра як палітычнага праціўніка.

Высмактанымі з пальца лічыць адвакатка і абвінавачванні М.Чыгіра ў халатнасці падчас выдачы крэдытаў. «Калі Чыгіра пераводзілі з пасады кіраўніка банка ў прэм'еры, пра гэтыя крэдыты ўжо было вядома, але тады прэтэнзіяў у Лукашэнкі не ўзнікала. Яны з'явіліся, калі Чыгір пачаў пратэставаць супраць палітыкі Лукашэнкі і асабліва калі падаў у адстаўку, пратэстуючы супраць рэферэндуму 1996 года», – канстатавала Юлія Чыгір. Напрыканцы сваёй прамовы яна назвала судовы працэс над яе мужам ганебным для беларускіх уладаў і заклікала суддзяў падчас прыняцця рашэння кіравацца законам, сумленнем і хрысціянскай мараллю.

## Аляксандр Пыльчанка

Адвакат на працягу больш чым трох гадзінаў грунтоўна прааналізаваў базу доказаў віны Чыгіра, сабраных следствам, і тыя паказанні, што прагучалі ў судзе. У выніку Пыльчанка прыйшоў да некалькіх высноваў. Першае, ні па адным з эпізодаў абвінавачвання віна Чыгіра не пацвярджаецца. У большасці выпадкаў у яговых дзеяннях няма складу злачынства, у астатніх – няма дастаткова доказаў, каб казаць, што менавіта Чыгір вінаваты ў пэўных стратах. Прыкладам, дзяржава сапраўды страціла пэўныя сумы з-за таго, што фірма «Піаск» не заплаціла ў бюджэт мыты і падатак на дадатковую вартасць за ўвезеныя аўтамабілі, але адбылося гэта яўна не па віне Чыгіра, а насуперак ягоным распараджэнням, якія дазвалялі толькі адтэрміноўку плацяжоў пры пэўных умовах.

вання банкаўскай сістэмы і ўсталявання рынкавых адносінаў, якія былі характэрныя для беларускага грамадства ў сярэдзіне 90-х гадоў. Фактычна Чыгіра цяпер судзяць з пазіцыяў сацыялістычнай эканомікі, якой у тыя часы ўжо не існавала, і з пазіцыяў сацыялістычнай законнасці, якая выкарыстоўваецца выбарачна, у дадзеным выпадку – каб расправіцца з нязгодным.

Абаронца заўважыў: следства ў кожным эпізодзе бачыць нанесеныя Чыгірам страты дзяржаве, між тым, гэтыя тэзіс супярэчыць сапраўднасці. Так, у 1994 годзе Белаграпрамбанк быў камерцыйным банкам (фармальна ён такім і застаецца), і новы офіс ён будаваў на ўласныя, а не на дзяржаўныя сродкі, і крэдыты выдаваў са сваёй, а не з дзяржаўнай кішэні. А тое, што калі-нікалі банк нёс страты, канешне, непрыемна для акцыянераў, але яны добра разумелі простую рэч – бізнес без



Фота Ул.ШЛАПАКА

І вось тут узнікае другая важкая выснова. Следства, на думку адваката Пыльчанкі, наўмысна нічога не рабіла, каб шукаць сапраўдных вінаватых па шэрагу эпізодаў, не кажучы ўжо пра збор доказаў. У выпадку з фірмай «Піаск» — гэта і кіраўніцтва фірмы, якое змясціла ў суправаджаючых груз дакументах фальсіфікаваныя звесткі, і Дзяржаўны мытны камітэт, які спачатку сказіў падпісанае Чыгірам распараджэнне, а потым яго не выканаў, і міністэрства фінансаў, якое не выканала сваю частку даручэння прэм'ера.

Адвакат лічыць, што яшчэ не позна правесці новае расследаванне і выявіць сапраўдных віноўнікаў злачынстваў, а М.Чыгіра трэба па ўсіх пазіцыях абвінавачвання апраўдаць.

## Барыс Гюнтар

Вядомы палітык і былы дэпутат Вярхоўнага Савета Гюнтар прадстаўляў на працэсе праваабарончую арганізацыю «Вясна». Гюнтар пачаў сваю прамову перад суддзямі з сцвярджэння, што следчыя не здолелі здабыць доказы віны Чыгіра і «набілі 18 тамоў справы макулатурай». На думку абаронцы, у гэтай макулатуры не знайшлі адлюстравання складаныя працэсы фармарызыкі і пэўных стратаў немагчымы. Гэта факт, што акцыянеры да банкіра Чыгіра прэтэнзіяў не выказвалі. Вось такім бачыцца ідэалагічны падмурак гэтай справы Барысу Гюнтару.

Што ж тычыцца эпізодаў абвінавачвання, абаронца лічыць іх альбо фальсіфікаванымі следчымі, альбо дэталёва не расследаванымі. Напрыклад, следства падало скажоны склад валютна-крэдытнай урадавай камісіі, якая рэкамендавала ўраду даць «Піаску» адтэрміноўку. Навошта была зробленая фальсіфікацыя? А каб даказаць, што рашэнне было незаконнае, бо на пасяджэнні камісіі не было кворуму. Адпаведна, што Чыгір перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы. На самой справе камісія складалася з 11 чалавек, прысутнічала 8, кворум у дзве трэціх быў забяспечаны, рашэнне законнае, даводзіў суддзям абаронца Барыс Гюнтар.

Ягоныя доказы нежадання следчых разбірацца з сапраўднымі вінаватымі таксама гучалі пераканаўча. Скажам, следства сцвярджае, што пераемнік Чыгіра на пасадзе кіраўніка Белаграпрамбанка Застаўнюк рабіў усё магчымае, каб вярнуць з Канады пералічаны туды раней мільён долараў на закупку абсталявання. Што Застаўнюк ледзь не закідаў канадскага партнёра Майзелса просьбамі аддаць грошы. На што Б.Гюнтар заўважае: «Між тым, калі гэты Майзелс сам прыехаў у Мінск, Застаўнюк нават не знайшоў часу, каб з ім сустрэцца. Нічога сабе спробы вярнуць мільён?!»

## Гары Паганяйла

Грамадскі абаронца ад Беларускага Хельсінкскага камітэта надаў гэтаму эпізоду справы асаблівую ўвагу. Паганяйла нагадаў, што былы кіраўнік Белаграпрамбанка Застаўнюк уваходзіў у склад заснавальнікаў фірмы «Бесеркер», якая пасля разрыву кантракта з канадцамі яшчэ доўгі час працавала на будаўнічай пляцоўцы новага офіса банка на Юбілейнай плошчы. Паводле дакументаў, у гэтую пляцоўку было «ўбухана» больш мільёна долараў, а выніку ніякага – будоўля спыненая, зямлю гарадскія ўлады ў банка адабралі. Гары Паганяйла лічыць, што грошы не проста прамарнаваныя, што гэта махінацыя з мэтай схаваць канцы ад фінансавання праз банк перадвыбарчай кампаніі А.Лукашэнкі. Адвакат нагадаў, што менавіта ў офісе фірмы «Карунa» ў 1994 годзе месціўся перадвыбарчы штаб Лукашэнкі, а гэтай «Карунай» кіраваў нейкі Бародзіч, які потым стаў намеснікам Застаўнюка па будоўлі. Цяпер Бародзіч спакойна жыве ў Маскве, а яго бачыцца бы шукае беларуская міліцыя. А да Застаўнюка ў следчых увогуле няма прэтэнзіяў, хаця менавіта ён можа быць адказным за спыненне будоўлі і за тое, што згубіўся мільён долараў, лічыць Паганяйла.

Дасталося ад Паганяйлы і суддзям, якія разглядаюць справу Чыгіра. Абаронца выказаў сумніў у іхнай аб'ектыўнасці, спасылаўшыся на тое, што суддзі адмовіліся праводзіць незалежныя экспертызы, што прапаноўвала абарона, і не далучылі да матэрыялаў справы шэраг істотных дакументаў з мытні, якія, на думку адваката, пацвярджаюць невінаватасць Чыгіра. «Памятайце, што сучасная гісторыя ўжо ведае выпадкі суда над суддзямі, якія прымалі заведама незаконныя рашэнні», – звярнуўся Г.Паганяйла да суддзі Аляксандра Васілевіча і яговых памочнікаў. Абаронца падкрэсліў, што спадзяецца на справядлівы прысуд і згодны, што права на канчатковае рашэнне належыць толькі суду.

Магчыма, што гэты канчатковы вердыкт будзе агалошаны 10 траўня, пасля таго, як з апошнім словам выступіць экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір. ■

**ЗАМЕЖЖА**



## Тюремщиков тоже сажают

Полиция Италии арестовала в среду более восьмидесяти сотрудников исправительных учреждений на острове Сардиния. Их обвиняют в издевательствах над заключенными и в злоупотреблении служебным положением. Ордера были выписаны на основании многочисленных жалоб родственников осужденных. Теперь заключенные должны будут пройти медицинское освидетельствование. Впрочем, итальянский профсоюз тюремных надзирателей немедленно выступил с протестом против ареста сотрудников тюрем. ■

## Инаугурация за 200.000 долларов

В воскресенье состоится инаугурация нового президента России – В.Путина. В четверг на заседании правительства России было принято решение выделить сумму в 6 миллионов рублей (более 200.000 долларов) из резервного фонда правительства на эти цели, сообщает высокопоставленный источник в кабинете министров России. ■

## Секретные агенты судятся

Несколько сотрудников американской Секретной службы афро-американского происхождения, в обязанности которых, помимо прочего, входила охрана жизни президента, подали в суд на правительство США, обвинив его в расизме. Бывшие и нынешние агенты Секретной службы требуют в качестве компенсации несколько миллионов долларов. Они утверждают, что их ущемляли в продвижении по службе и подвергали оскорблениям на расовой почве. Адвокат, представляющий истцов, сказал, что агенты, которые в случае необходимости должны отдать жизнь за президента, подвергались систематическим унижениям. Секретная служба выступила в свою защиту, заявив, что многие важные должности в ведомстве занимают афро-американцы. ■

## Лондонцы выбирали мэра

В четверг жители Лондона принимали участие в первых в истории города выборах мэра. Судя по всем опросам населения, фаворитом является бывший член правящей в Великобритании лейбористской партии, а ныне независимый политик Кен Ливингстон. За ним следуют кандидаты лейборист Фрэнк Добсон, консерватор Стив Норрис и либерал-демократ Сюзан Крамер. Кроме них, в бюллетени для голосования были внесены имена еще семи претендентов. Предварительные результаты выборов станут известны уже сегодня. ■

## Казнь за измену

В Кувейте суд подтвердил смертный приговор Алаа Хуссейну, который был признан виновным в государственной измене. Алаа Хуссейн согласился возглавить марионеточное правительство страны, созданное Ираком во время оккупации Кувейта в 1990 году. Это правительство просуществовало всего неделю. Сегодня суд постановил казнить Хуссейна через повешение. Алаа Хуссейн был приговорен к смертной казни заочно в 1993 году — через два года после того, как международные войска во главе с США положили конец иракской оккупации Кувейта. Алаа Хуссейн бежал, но в начале этого года вернулся домой, заявив, что хочет доказать свою невиновность. Бывший полковник кувейтской армии, Хуссейн оказался в числе сотен военнопленных, взятых в плен в первый день оккупации. Выбор пал на него случайно. Защищаясь в суде, Алаа Хуссейн сказал, что подчинился приказу иракцев под угрозой смерти. ■

## Торт для Хусейна

Испеченного ко дню рождения президента Ирака Саддама Хусейна торта хватило бы, чтобы накормить 3 тысячи детей. Как пишет кувейтская газета «Аль-Кабас», на изготовление кулинарного чуда диаметром три метра ушло 3 тысячи яиц, 150 кг сахара, 150 кг сливочного масла, 150 кг муки, 38 литров молока и 7 кг орехов, не считая других ингридиентов. Всего же праздничная церемония, прошедшая 28 апреля в родном городе президента Тикрит и открывшая двухнедельные торжества по случаю 63-й годовщины со дня рождения Хусейна, обошлась в 11 млрд. иракских динаров. ■

## Звезда рекламы – Горбачев



Бывший президент Советского Союза Михаил Горбачев снимается в рекламном ролике австрийского железнодорожного концерна. 69-летний политик «выскажет свое мнение по поводу железной дороги, находясь на вокзале, в поезде и в автомашине», сообщил представитель компании, однако дальнейших деталей не раскрыл. Сам Горбачев примет участие в съемках только в течение первого дня — затем его заменят двойником. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Рэйтынг здаровага сэнсу

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Бачыў аднаго разу наступную сцэну ў роднай вёсцы. Па вуліцы ідзе гарадскога выгляду жанчына з папкай у руцэ. Насустрач ёй крочыць мой зямляк, не буду называць яго прозвішча, увесь выгляд якога сведчыць: «трубы сапраўды гараць» і ён увесь у пошуку. Ведама чаго. І ён, і яна сустракаюцца якраз насупраць майго ганку, і мне ўсё добра чуваць. Яна прадстаўляецца сацыёлагам, ён хоць і збіты з тропу, але ўсё ж вясковец, прыпыняецца. Далей яна ласкава просіць адказаць на пытанні. Спачатку простыя (узрост, адукацыя), затым больш складаныя і нарэшце (вушам не веру), яна пытаецца ў гэтага змучанага смагай мужчыну, як ён ацэньвае эфектыўнасць дзейнасці камісіі ПАСЕ на Беларусі. Той, што добра відаць, думае — а лаяцца навошта, але нешта там адказвае. Сацыёлаг нешта там запісвае.**

Прыкладна так высвятляюцца адносіны народа да рынкавай ці планавай, ці часткова рынкавай эканомікі, да палітычных партыяў і гэтак далей. Замест таго каб папытаца, прыкладам, пра тое, калі апошні раз чалавек купляў кашулю, хадзіў у баню, добра пад'еў? Дзе ён купляе харч: на Камароўцы, у начной краме, у сельпо? Чаму менавіта там? Калі, уласна, атрымоўваў у апошні раз грошы і колькі? І як ён думае жыць далей, на каго ці што спадзяецца? Вось на такой інфармацыі і можна ствараць больш-менш аб'ектыўную карціну пануючых настрояў. А пытаецца – за каго б зараз прагаласавалі: за Лукашэнку ці Чыгіра ...



Кажуць, што беларускаму народу ўласцівы садамазахізм, і чым больш яго бэсціць Лукашэнка, тым больш народ яго ўхваляе. Таму, маўляў, за Лукашэнку галасы аддадуць каля паловы электарата, а за адзінага кандыдата блока дэмакратычных партыяў, якія надаюць вялікую ўвагу задачы адраджэння беларускай культуры, аддаленню ад Расіі, сёння гатовы галасаваць менш за 1/10 выбаршчыкаў.

Болей таго, як лічаць асобныя ўшчэнт ліберальныя палітыкі, чым болей дэмакратычная апазіцыя выводзіць людзей на вуліцы (пад нацыянальнымі сімваламі), тым маналітней становіцца нятаючы электарат Лукашэнкі. Таму, маўляў, ужо сёння на аднаго выбаршчыка-дэмакрата прыходзіцца два выбаршчыкі-лукашысты.

Што на гэта сказаць? У тым, што на «Чарнобыльскі Шлях» сёлета выйшла 40-50 тысяч мінчукоў, ёсць у пэўнай меры заслуга арганізатараў. Але, на наш погляд, больш плённа ў гэтым сэнсе папрацаваў сам Лукашэнка, які на самой справе пазбавіў мэты і сэнсу жыццё вельмі вялікай колькасці людзей. Яны ў роспачы. Таму яны і ідуць туды, дзе, як ім здаецца, ёсць людзі дасведчаныя, якія ведаюць, што рабіць сёння.

Для доказу спашлемся на прэцэдэнт, створаны ўдзельнікамі сустрэчы сталічнай вертыкалі на чале М.Паўлавым з кіраўніцтвам і прафсаюзным актывам сталічных прадпрыемстваў, што адбылася на другі дзень пасля «Чарнобыльскага Шляху» ў палацы культуры МАЗа. Удзельнікам сустрэчы, як гэта высякае з тэлефанаграмы кіраўніка адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча, рэкамендавалася ў сваіх прамовах расказаць, што працоўныя калектывы падтрымліваюць курс кіраўніцтва краіны, слугуюць рэалізацыі рашэнняў Лукашэнкі і ўрада, але незадаволены выбарнымі прафсаюзнымі функцыянерамі. Іншымі словамі, уладам спатрэбілася рэзалюцыя, каб пачаць «ператрахіваць» прафсаюзнае кіраўніцтва, якое, пры ўсёй сваёй талерантнасці, далей закрываць вочы на галечу народа ўжо не можа. Інакш прафсаюзы самаліквідуюцца. Але кіраўнікі прадпрыемстваў і прафактывісты галасаваць пагромную рэзалюцыю адмовіліся. Яны проста разышліся па больш пільных справах, пакінуўшы прэзідыум сам-насам з думкай, што і як дакладваць наверх. З гэтай жа нагоды на наступны дзень не адбыўся і «круглы стол», на якім «галоўныя прадстаўнікі» нашых працоўных тт.Посахаў і Чыкін павінны былі данесці да журналістаў інфармацыю аб новых асобах у прафсаюзным руху, паказаць будучых перспектыўных прафсаюзных лідэраў.

Але чаго ні прыдумаеш, калі працаваць не хочаш ці не можаш. Так яно і ідзе. То не тая, аказваецца, рэлігія, то народ не той, то журналісты не так пішуць пра палітычных лідэраў. То ва ўсім павінны тыя, хто адстаівае права народа на існаванне ў культурным асяродку нацыянальнай тоеснасці.

Не існуе такой аўтаноміі: або культура, або рынкавая эканоміка. І культура, і рынкавая эканоміка. Лепш зрабіць так, як гэта зрабілі ў адной мінскай камерцыйнай краме. Сярод іншай драбязы тут прадаюць і прэзэрватывы, але кажуць, што гэта «гумкі для кахання». Таму што гандляры ведаюць, што нацыянальна свядомая моладзь, шэрагі якой павялічваюцца, з'яўляецца дасведчанай у сферы бяспечнага сэксу. А як вядома, для гандляра лепшая мова – гэта мова кліента. ■

# «Момант ісціны» для...

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**У гэтым годзе і летась адной з самых скандальных падзеяў ва ўвачавідкі крызісуючым беларускім кінематографе былі здымкі рэжысёрам Міхаілам Пташуком фільма «Момант ісціны» паводле рамана расійскага пісьменніка У. Багамолава «Жнівень 44-га». Прэм'ера гэтай кінастужкі павінна была адбыцца 9 траўня, адмыслова да 55-ай гадавіны Перамогі. Але не адбудзецца, бо змантаваць скончаны здымацца толькі напрыканцы сакавіка відэаматэрыял да гэтай даты не паспелі. І цяпер не зусім зразумела, навошта гэты фільм патрэбны наогул.**



Рэжысёр фільма «Момант ісціны» **Міхаіл Пташук** і намеснік міністра культуры, які курыруе кінематограф, **Юры Цвяткоў**

«Момант ісціны» – нішто іншае, як звычайны дзяржаўны заказ. Нават больш за тое – амаль персанальны заказ Лукашэнкі. Неяк падчас экскурсіі па кінастудыі «Беларусьфільм» ён недвухсэнсоўна агучыў думку, што краіне неабходны сапраўдны кінашэдэўр, які не сорамна паказаць на «Оскары» альбо ў Канах. Тут тое самае, як «спорт – гэта вялікая палітыка». Няма нічога дзіўнага: спрацоўвае агульнае ў гісторыі ўсіх дыктатараў — хворае імкненне прыхаваць за вонкавымі і ўяўнымі дасягненнямі і паказальнай шыкоўнасцю сутнасны шматсферны заняпад у дзяржаве.

Зняць фільм па кнізе Багамолава Пташуку фармальна замовіла міністэрства культуры. Прычым кінула на гэта, бо так званых мэтавых сродкаў не знайшлося ды ніхто іх і не шукаў, не апраўдана вялікія бюджэтныя грошы. Праект атрымаўся звышдарагім. Толькі ў 1999 годзе на «Момант ісціны» пайшлі каля 125 мільярдаў рублёў, літаральна ўсё, што наогул выдаткавала дзяржава на ўвесь айчынны кінематограф летась. У выніку ў мінулым годзе на «Беларусьфільме» не выйшла аніводнай ігравой мастацкай карціны. Хоць за растрачаныя на пташукоўскі фільм сумы можна было выпусціць некалькі. Кінастудыя адно што займалася тым, што здавала ў арэнду каму заўгодна рэквізіт і натурныя плошчы. А многія свае выдатныя рэжысёры і іншыя кінаспецыялісты апынуліся ў недарэчным прастоі.

Фінансаваўся «Момант ісціны» таксама і з Расіі. Адтуль на ягоныя здымкі пералі, як мінімум, 400 тысяч долараў. У прыватнасці, кажуць, што даваў грошы адзін з функцыянераў тамтэйшай кампартыі Сямага, які быццам бы з'яўляецца прадзюсерам «Моманту ісціны». Але якія каштарысы дадзенай кінавытворчасці насамрэч – пакуль таямніца. Можна адно што здагадвацца, якія дурныя грошы абарачаліся і абарачаюцца там. На адзін рамонт даваеннага цягніка, задзейнічанага ў фільме, мусіла пайсці 2 мільярды беларускіх рублёў. А трэба ж яшчэ, напрыклад, выплаціць, відаць, зусім не малыя ганарары такім акцёрам, як расеец Я. Міронаў і полька Б. Тышкевіч?

На працягу здымачнага працэсу міністр культуры Сасноўскі нават раз на два тыдні праводзіў спецыяльныя нарады па вытворчых праблемах «Моманту ісціны». Так, падобныя падыходы і маштабнасць праекта разам з наступнай рэкламнай «раскруткай» хутчэй за ўсё зробяць гэты фільм бестселерам у параўнанні з іншымі айчыннымі стужкамі апошніх гадоў. Проста ў прамінулым дзесяцігоддзі якаснага кіно ў нас не з'явілася. Але вось у тым, ці зробіцца грандыёзны «Момант ісціны» нястратным, ёсць значны сумнеў. Да таго ўжо зараз відавочна, што ён і блізка не стане фільмам, што называецца, нацыянальным па форме і змесце, з высокімі маральна-эстэтычнымі і нацыятворчымі функцыямі, а значыць, не стане годнай кінавізітоўкай краіны ў свеце. Як, напрыклад, тыя ж «Севільскі цырульнік» Міхалкова для Расіі альбо «Агнём і мечам» Гофмана, прагледжаны ўсёй Польшчай. На жаль, толькі знешне выглядае, што міністэрская ініцыятыва мела на мэце менавіта такі рэзананс «Моманту ісціны». Але на самой справе з нацыянальнага у ім выключна месца дзеяння – Заходняя Беларусь – і трохі разам з рускай і польскай беларускай мовы. Нечага большага, чым дэкаратыўная і ўяўная беларускасць пры цяперашнім рэжыме, здаецца, проста не можа быць. Бо, паводле сутнасці гэтага самага рэжыму, быць не павінна.

Той самы Пташук, па ягоных словах, ужо пяць гадоў угаворвае міністэрства культуры зняць фільм пад умоўнай назвай «Вітаўт». Але пры гэтым чамусьці пагаджаецца абслугоўваць уладу, здымаючы фільм, які, нават нягледзячы на талент рэжысёра і аб'ектыўна неблагі ў літаратурна-сцэнарным плане матэрыял, многія нашы суайчыннікі ўспрымуць як асабістую і нацыянальную абразу. Героі «Моманту ісціны» – вайскоўцы са «смершаўскага» аддзела НКУС, органа, які агульнавядома як абыходзіўся з беларускімі нацыянал-патрыётамі. Разам з тым хоць неяк раманізаваць тое праз мастацтва — значыць, маральна і палітычна апраўдваць і спрыяць сённяшнім рэпрэсіям у Беларусі.

Што да ўласна лёсу «Моманту ісціны», то, як мяркуецца на гэты раз, ягоную прэм'еру пакажуць 3 ліпеня. Дзе (у Маскве ці ў Мінску), калі, колькі будзе доўжыцца фільм і ці не надарыцца нават чарговага пераносу – загадка. Бо, па чутках, аўтар «Жніўня 44-га» У.Багамолаў мае пэўныя прэтэнзіі да беларускага кінаўвасаблення свайго рамана. Між іншым, калісьці ўжо амаль гатовы фільм рэжысёра Жалакявічуса па гэтай кнізе так і не пабачыў свет. ■

АРЫЕНЦІР

# Улада і незалежныя СМІ

Генадзь БАРБАРЫЧ

**Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Жана Літвіна лічыць, што бліжэйшым часам стасункі паміж уладамі Беларусі і незалежнымі СМІ абвастрацца. Гэта звязана, найперш, з прызначанымі на восень 2000 года выбарамі ў парламент і жаданнем улады ўтрымаць пад сваім кантролем інфармацыйную прастору.**

Незалежная прэса застаецца апошнім інструментам кантролю дзейнасці ўлады. І няхай яна не аказвае ключавога ўплыву на працэсы ў грамадстве, але застаецца жывой крыніцай інфармацыі, якая не падвяргаецца цэнзуры і фальсіфікацыі. Прэзідэнт БАЖ нагадала, што перад рэферэндумам 1995 года быў закрыты 8-ы незалежны канал тэлебачання, перад рэферэндумам 1996 года была на працягу 24 гадзінаў закрытая незалежная радыёстанцыя «101,2». Цяпер жа ў кулуарах улады падрыхтаваны папраўкі да закона «Аб друку», з дапамогай якіх (праз некалькі месяцаў) стане значна прасцей распраўляцца з недзяржаўнай прэсай. Рэдакцыі СМІ прыраўнаваныя да суб'ектаў гаспадарання і падпадаюць пад дзеянне дэкрэта прэзідэнта № 11 ад 1999 года «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання». У выніку газету можна будзе закрыць без судовых разбораў.

Улады працягваюць актыўна выкарыстоўваць і звыклыя рычагі ўдушэння незалежных СМІ — вынясенне папярэджанняў, судовыя іскі, затрыманне і запужванне журналістаў, эканамічныя санкцыі — незалежныя і дзяржаўныя СМІ маюць выключна няроўныя эканамічныя ўмовы сваёй дзейнасці. Выкарыстоўваецца розныя заканадаўча-бюракратычныя хітрасці. Напрыклад, з 1 красавіка 2000 года спынена рэгістрацыя СМІ і рэдакцыяў як юрыдычных асобаў, а гэта патрабуе дадатковай рэгістрацыі ў выканкамах.

«Для нашага грамадства найбольш трагічная адсутнасць магчымасці распаўсюджвання свабоднай інфармацыі электроннымі СМІ. І тут улады не дапусцяць ніякіх паслабленняў. Гэта яскрава паказала падрыхтоўка да так званага грамадскага дыялога. Улады маюць намер працягваць фарміраванне грамадскай думкі ў зададзеным вузкім накірунку, прыраўнаваўшы сродкі масавай інфармацыі да інструмента дзяржаўнай палітыкі, якая абслугоўвае інтарэсы правячай бюракратыі. Для ўлады недапушчальна, калі людзі на аснове свабоднай інфармацыі пачнуць думаць самастойна», — перакананая прэзідэнт БАЖ. ■

НОУ-ХАУ

# На Беларусі сексу няма?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У вечары другога траўня былі моцна расчараваныя аматары эротыкі, якія сабраліся каля сваіх блакітных экранаў паглядзець па расійскім канале ТВ-6 камедыйна-эратычны фільм «Асаблівасці рускай лазні» з Аляксеем Булдаковым («Асаблівасці нацыянальнага палявання», «Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі») у галоўнай ролі. Пасля заканчэння перадачы, якая папярэднічала фільму, раптоўна на экране з'явіліся цітры, зробленыя адказнымі за трансляцыю расійскіх каналаў на Беларусь, у якіх паведамлялася, што на гэтым трансляцыя канала будзе скончана па прычынах правядзення прафілактыкі.

Пасля гэтага выпадку становіцца зразумела, што беларускімі тэлевізійшчыкамі, безумоўна, па чыйсьці ўказцы зверху, вядзецца адмысловая палітыка недапушчэння да вачэй беларусаў фільмаў, якія носяць скандальна і адкрыта эратычны характар. Узгадайце аналагічныя выпадкі, якія адбыліся з фільмам Марціна Скарсэзэ «Апошняе спакушэнне Хрыста» ці з фільмам Цінта Браса «Калігула».

Усё гэта дзіўна нагадвае савецкія часы, калі адкрыта заяўлялася, што «сэксу ў СССР – няма!» Відаць, і ў Беларусі зараз гэтае сакраментальнае выказванне будзе ўзятае на афіцыйнае ўзбраенне дзяржаўных СМІ. ■

РАКУРС

## Мёртвыя жывым не пярэчаць

Андрэй ВЯРЫГА

**Дзень Перамогі для людзей простых — «свята са слязамі на вачах», для людзей уладарных — найперш палітычнае мерапрыемства. Паколькі 55-я гадавіна з дня заканчэння вайны гэтым годам прыпала на пік «інтэграцыйнага» працэсу, дык улады намагаюцца напоўніць свята зместам, адпаведным «духу часу» — духу адраджэння савецка-імперскіх памкненняў. Усе ідэалагічныя службы, пэўна, шмат папрацавалі над сцэнарам перадсвяточных і святочных мерапрыемстваў, вырабляючы «эгіду» для ачольнікаў дзвюх дзяржаваў, з якой яны выходзяць да народа. Стварэнне Саюза, падазрона падобнага на сканаўшы СССР, запатрабавала вытанчанага і абгрунтаванага тлумачэння гістарычнай неабходнасці вяртання з таго свету на гэты. «Славянскія карані» і «славянская еднасць» для доказаў такой неабходнасці няважкія.**

Распачатыя ў красавіку сустрэчы выканаўчай улады з ветэранамі вайны, урачысты аб'езд Беларусі са сцягам, які лунаў над рэйхстагам 9 траўня 1945 года, урачыстасці ля помніка Перамогі ў Мінску перад адпраўкай гэтай рэлііквіі ў Маскву, адлюстроўваюць значнасць, якую надаюць надыходзячаму юбілею як у Крамлі, так і ў рэзідэнцыі прэзідэнта РБ у Мінску.

У прамовах, з якімі вышэйшыя кіраўнікі Саюза звяртаюцца да ветэранаў, узгадваюцца перажытае народамі гора, страты 27 мільёнаў грамадзянаў былога СССР і 2,5 мільёнаў грамадзянаў Беларусі, крывавыя гады вайны. Аднак найбольш уражлівае разуменне вярхоўнымі чыноўнікамі сэнсу народных ахвяраў. Лукашэнка ў прамове на плошчы Перамогі абвясціў, што палеглыя на палях вайны савецкія салдаты аддалі жыццё за «гэтую краіну, за СССР». Пуцін на сустрэчы з ветэранамі ў Крамлі крыху звузіў ахвярнік, падкрэсліўшы, што савецкія салдаты «аддавалі жыццё за Расію». Пры пэўнай ідэалагічнай розніцы ў гэтых акрэсленнях прасочваецца агульная матрыца. Лукашэнку мроіцца адраджэнне СССР, больш прагматычны Пуцін трымае перад вачыма пераемніцы былыні савецкіх абшараў — Расіі. Немагчыма ўспрыняць такія выказванні як рытарычную фігуру ці выпадковасць, ці эмацыянальны перагіб.

Для мноства людзей, якія загінулі на франтах, у партызанцы было б дзіўна даведацца, што яны аддалі сваё жыццё за СССР. За тую сталінскую таталітарную бязлітасную дзяржаву, якая ва ўласных канцлагерах і да вайны, і пасля яе загубіла нашмат больш людзей, чым адняла вайна. Выхоўваючыся ў сем'ях, якія зведалі ахвяры і дзе доўгі час былі жывыя ўдзельнікі вайны, наўрад ці хто чуў ад дзеда ці бацькі, што яны «змагаліся за СССР». Бо гэта было б сведчаннем страты розуму. Змагаліся людзі за жыццё сваіх родных, змагаліся з фашызмам, спадзяваліся, што СССР пасля вайны зменіцца. А зараз пад уплывам прапаганды з вуснаў старых заслужаных ветэранаў гучыць тое, пра што раней яны нізк не выказваліся: «Саюза усё баяліся, а сёння нас ніхто не баіцца». Таму трэба адрадзіць Саюз, каб баяліся.

І застаецца недзе на трэцім плане, што ваявалі з фашызмам не адзін СССР, а мноства краінаў, што перамогцы былі падмануты сталінскім урадам, што многія з іх проста з


Фота IREX/ProMedia

На пачатку ўрачыстага развітання са сцягам Перамогі

фронта патрапілі ў берыеўскія лагеры за тое, што былі палоннымі, ці за тое, што ўсумніліся ў геніі ці ў розуме Сталіна, ці не хацелі на рабскую працу ў калгас, на бясплатнае існаванне.

Можна зразумець, чаму настальгуюць па славе сталінскага перыяду сённяшнія ўлады. Але што добрага могуць узгадаць пра той СССР простыя людзі? Хіба як дзяржава трымала іх на службе, эксплуатавала, трымала дзесяцігоддзямі ў чэргах на жыллё, на дываны, канапы, зялёны гарошак і так званыя «заказы»? Што з таго, што баяліся? Лепш, калі б зайздросцілі нашаму ўменню жыць багата і прыстойна, чым баяліся б беднага чалавека з атамным ружжом. Перад 9 траўня варта асэнсоўваць маштабы ахвяраў, пакладзеных народамі дзеля перамогі над фашызмам і над сталінскім таталітарызмам. 27 мільёнаў не могуць выказаць нязгоду з такімі сённяшнімі святочнымі прамовамі. Але тым, хто іх слухае, варта падумаць, за што аддаў сваё жыццё 55 гадоў таму іхны дзед, бацька, сваяк, сусед. ■


Фота IREX/ProMedia

Сцяг Перамогі нясуць у музей Айчыннай вайны

# Расійскі каваль беларускага шчасця,
## ці Запланаванае скарачэнне беларускіх міністраў

Віталь САКОВІЧ

**У нашай краіне не прынята даходліва тлумачыць насельніцтву пра дзяржаўнае будаўніцтва адраджаемага Саюза. Нашыя вярхі выканаўчай вертыкалі, маючы схільнасць да палітычных сюрпрызаў, абыходзяцца агульнымі словамі, а можа і проста не ведаюць, як будзе насамрэч, і таму выказваюцца парадоксамі, накшталт «Толькі ў шчыльным Саюзе з Расіяй Беларусь умоцніць свой суверэнітэт!»**

Расійскія палітычныя дзеячы зараз больш шчырыя. Візантыйскі этап маніпуляцыяў вакол саюзнай дзяржавы яны ўжо прамінулі, і цяпер, займеўшы на рукі ратыфікаваную Нацыянальным сходам РБ саюзную дамову, шырока інфармуюць сваю грамадскую думку, як будзе ў рэальнасці выглядаць гмах Саюза.

З гэтай мэтай вядомы прыхільнік інтэграцыйнага паглынання Беларусі Расіяй Сяргей Бабурын надрукаваў ва праўрадавай расійскай «Независимой газете» артыкул з бадзёрай назвай «Время действовать» і з паказальным падзагалоўкам – «Строительство Союзного государства Белоруссии и России требует ежедневной практической работы». Сяргей Бабурын – старшыня Расійскага агульнанароднага саюза (РАС), адзін з стваральнікаў ідэалогіі адраджэння СССР (імперскай Расіі), і яго ўпартая «практычная работа» на гэтай глебе ўвасабляе гэтую мару жыцця ў рэчаіснасць.

Артыкул, трэба адзначыць, пазбаўлены гулкай рыторыкі і слоўнай мішуры пра славянскія кроў і місію, якія часта аздаблялі папярэднія бабурынскія выступы па інтэграцыйную тэму. З нямецкім педантызмам старшыня РАС даводзіць да шырокай публікі канкрэтны план дзеянняў, злучаных з ростам і роcквітам расійска-беларускай дзяржавы, паколькі, на ягоную думку,*«процесс воссоединения России и Белоруссии подошел к этапу...»* Гэтыя *«современный этап объединения Российской Федерации и Республики Беларусь в единое Союзное государство призван сделать* ***необратимым воссоединение*** *двух братских государств и народов»* (тут далей выдзелена мной. – **В.С.**). Пашкадаваўшы, што магчымасці канстытуіравання Саюзнай дзяржавы выкарыстоўваюцца не надта акты́ўна, С.Бабурын пераконвае чытача, што *«в силу внутренних и внешних причин создание Союзного государства Беларуси и России* ***как государства федеративного*** *не может быть растянуто*



Магчымае ўвасабленне мары С.Бабурына пра сімвалы «Расійскага саюза»

*на десятилетие,* ***у нас нет исторического времени*** *на имитацию интеграции»*. Ні сіла знешніх прычынаў, ні загадкавая абмежаванасць гістарычнага часу, на жаль, не расшыфроўваецца.

Маючы мантыю доктара юрыспрудэнцыі, старшыня РАС імкнецца дакладна акрэсліць формы дзяржаўнага ўладкавання Саюза. *«Речь идет,* – піша Бабурын, – *о создании реального федеративного государства. На мой взгляд, с учетом возможного расширения круга членов Союза, оптимальное название создаваемого государства —* ***«Российский Союз»****.*

Як і належала чакаць, саюзная назва, як і папярэдняя (СССР), пакідае ад Беларусі ўспамін. Нават такое яшчэ зусім нядаўна чароўнае для слыху інтэгратараў слова «славянскі» выкрэсленае Бабурыным з ужытку (і правільна: расійскі і ёсць славянскі; ніхто не зблытае з Ганзейскім ці Еўрапейскім). Такім чынам, былая «Расійская імперыя» з вымушанай данінай дэмакратычнай лексіцы будзе адраджацца як Расійскі Саюз.

Самаадданасць імперскай справе дазваляе Бабурыну з зайздроснай упэўненасцю прагназаваць, што стварэнне Саюза будзе *«ознаменовано утверждением на референдуме Конституционного акта Союзного государства»*. Ведае Бабурын, а значыць, з ягоных словаў і ўвесь белы свет, што падрыхтоўка Канстытуцыйнага акта і ўхваленне яго саюзным парламентам пройдзць увосень бягучага года, а рэферэндумы па прынацці гэтага Асноўнага закона Саюза ўпрыгожаць вясну 2001 года.

Карысць ад гэтага для Расіі старшыня РАС таксама прапічыў на ўзроўні дзяржаўных інтарэсаў: *«Объединение с Белоруссией должно быть использовано для укрепления единства российской государственности, ее внутренней устойчивости»*.

Паколькі ўстойлівая дзяржава не можа існаваць без устойлівага чыноўнага апарата, дык і гэтае пытанне ўжо прадуманае па вертыкалях і гарызанталях. Зразумела, што федэратыўнай «необратимой» саюзнай дзяржаве будуць патрэбныя пасады прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта (пайменна не названыя). У саюзным Савеце міністраў старшынёй будзе прэм'ер Расіі, намеснікам – прэм'ер Беларусі, узнікнуць дзяржаўныя камітэты па эканоміцы, сацыяльным забеспячэнні, фарміраванні дзяржавы. Паколькі функцыі гэтых камітэтаў цяжка ўбачыць недасведчанаму чалавеку, С.Бабурын пераходзіць на зразумелую бальшыні мову. *«По сути, речь идет,* – тлумачыць ён, – *о первом этапе преобразования республиканских министерств в союзные на базе российских.* (Ну, зразумела, што не на базе беларускіх. Мінск у якасці сталіцы СНД ужо паслужыў падставай для анекдотаў). *С укреплением федеративных подходов на уровне Союзного государства из союзных государственных комитетов будут выделяться новые союзные министерства с ликвидацией соответствующих республиканских»*. Гэты аўтарскі пасаж, трэба думаць, сапсуе сны многім нашым беларускім міністрам — не надта вясёлую перспектыву адкрывае перад імі саюзная будучыня. У лепшым выпадку – вандроўкі ў маскоўскія кабінеты выпрошваць датацыі, у горшым – скарачэнне пасадаў і магчымасцяў з неакрэсленым працаўладкаваннем. Час не чакае, трывожыць грамадскую думку напрыканцы артыкула старшыня Расійскага агульнанароднага саюза, час патрабуе *«создания единой экономической системы и введения общей валюты... должно быть завершено объединение энергетической и транспортной систем, создание единого научно-технологического пространства. Обязательно и введение единой системы обеспечения внешней безопасности, единой системы защиты внешнеполитических и внешнеэкономических интересов»*.

Новае, як вучыць гісторыя,



Масква. Лубянка. Будынак ФСБ, у якім магчыма будзе саюзнае міністэрства дзяржбяспекі (па С.Бабурыну)

гэта забытае старое. Усялякае «саюзнае» і правіцыйны заяндбалы стан Беларусі існавалі ў часы СССР, правераныя вопытам і былі выкінутыя на гістарычны сметнік. Дэманструе нам нашая даўніна і тое, што застанецца ад Беларусі пасля шчасця «воссоединения» з Расіяй. Застанецца ад яе нешта такое «суверэннае», што можна ўбачыць толькі праз мікраскоп. ■

СВЕДЧАННЕ

# Краіна жабракоў

Рыгор БУЯН

Намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франц Вітко расказаў журналістам пра тое, што Беларусь паступова ператвараецца ў краіну жабракоў. Згодна з афіцыйнай статыстыкай, на Беларусі 1 мільён працоўных (47% сем'яў) знаходзяцца за мяжой жабрацтва. Гэтая лічба атрымалася пры разліку суадносінаў даходаў чалавека з сумаю пражытачнага мінімуму. У цывілізаваным свеце парогавы паказчык наяўнасці ў краіне беднаты складае 10%. Выходзіць, што Беларусь ізноў ідзе наперадзе ўсяго свету, таму што парогавы паказчык перавышае сусветны паказчык ажно ў 4 разы. Гэта азначае, што ў рэспубліцы ідзе некантралюемы працэс люмпенізацыі грамадства.

Франц Вітко расказаў і пра іншыя «дасягненні» айчыннай эканомікі, пра якія публічна ў гэтай краіне гаварыць не прынята. Да прыкладу, удзельная вага асноўнага пастаўшчыка энергарэсурсаў пры норме ў 30% складае 85%. Вядома ж, Ф.Вітко меў на ўвазе пастаўку энерганосьбітаў з «братэрскай» Расіі.

Паводле праведзенага нядаўна сацыялагічнага апытання, на прамысловых прадпрыемствах 1,6% рэспандэнтаў ацэньваюць сітуацыю ў прамысловасці як катастрафічную, як небяспечную сітуацыю ахарактарызавалі 32% апытаных, як нядобрую – 27%. Больш за 60% работнікаў і кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў незадаволеныя сваім становішчам. Згодна з вынікамі апытання, і кіраўнікі прадпрыемстваў, і простыя рабочыя гатовыя ўдзельнічаць у акцыях пратэсту, калі апошнія будуць праходзіць у рамках закона. 42% дырэктарскага корпусу, такі ж працэнт спецыялістаў і 47% некваліфікаваных рабочых гатовыя выйсці на вуліцы і дабівацца паляпшэння ўмоваў жыцця.

«Як бы ні ацэньваў сітуацыю самы высокі чыноўнік у дзяржаве, мы прытрымліваемся іншай думкі – грамадства заражанае вірусам сацыяльнага канфлікту. І глебай для гэтага вірусу з'яўляецца нездаровая эканоміка дзяржавы. Гэты канфлікт, на нашую думку, лепш вырашыць мірным шляхам праз карэкціроўку сацыяльна-эканамічнай палітыкі. Пакуль рабочы кожны дзень праводзіць за станком, а потым стомлены ідзе дадому, пакуль у інтарэсах гэтага чалавека не будзе рэальна праводзіцца адпаведная сацыяльна-эканамічная палітыка, мы можам душыць канфлікт, заганяць яго ўглыб, але сітуацыя ў прынцыпе вырашыцца не зможа», – сцвярджае Ф.Вітко.

Урад, замест карэкціроўкі сацыяльна-эканамічнай палітыкі, пайшоў па пратаптанай дарожцы: з 1 траўня ён павысіў мінімальны заробак да 2.600 рублёў. Са студзеня, адзначае Вітко, заробкі застылі, а цэны за гэты час сягнулі ўверх на 36%. Дзяржаўная падтрымка бюджэтнікам, маркуе Вітко, неабходная. Але пры тым, што ў гаспадарча-разліковай сферы дазваляецца індэксаваць тарыфную стаўку, работнікам бюджэтнай сферы індэксуюць толькі палову бюджэту пражытачнага мінімуму. ■

СПОРТ

## Усё вырашыцца ў апошнім туры

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

На жаль, у другім туры чэмпіянату свету па хакеі з шайбай, што праходзіць зараз у Санкт-Пецярбургу, беларуская дружына па ўсіх кампанентах гульні саступіла сваім латвійскім калегам – 3:6 (па перыядах – 0:2; 3:3; 0:1). Нашыя хакеісты ў параўнанні з гульнёю ў мінулую нядзелю са зборнай Украіны, дзе беларусы перамаглі 7:3, выглядалі занадта млява і неяк нават абыякава да гульні. А чэмпіянат свету – не такое спаборніцтва, дзе можна было б здабыць добры вынік, гуляючы ў палову сілы. Тым больш, калі сапернік зборная Латвіі, якая толькі з лікам 1:3 прайграла фаварытам чэмпіянату зборнай Швецыі. Цяпер у нашых хакеістаў, як і ў зборнай Латвіі, – 2 здабытыя ачкі. У шведаў, якія ў аўторак перамаглі ўкраінцаў з лікам 7:2, – 4 ачкі, а ў нашых паўднёвых суседзяў



Момант сустрэчы паміж камандамі Беларусі і Украіны



украінцаў, адпаведна, набраных ачкоў няма. У апошнім туры беларусы паспрабуюць нешта супрацьпаставіць шведам, а Украіна і Латвія згуляюць паміж сабой. Нас задавальняе варыянт, пры якім украінцы не перамогуць латвійцаў, альбо нашыя хакеісты здабудуць хаця б ачко ў гульні са шведамі, што ў прынцыпе ўяўляецца надта ж малаверагодным.

Трэба адзначыць дэталь, якую не мог не заўважыць любы аматар спорту, які глядзеў рэпартажы з Санкт-Пецярбурга па тэлебачанні. На трыбунах прысутнічае дастаткова шмат беларускіх гледачоў, якія перажываюць за сваю каманду, махаючы сцягамі бел-чырвона-белай афарбоўкі. Прычым такіх – не адзін-два, як гэта здаралася на гульнях у Беларусі, а працэнтаў 95 ад усяго складу балельшчыкаў, у які ўваходзяць тыя беларусы, што спецыяльна набылі турыстычныя пуцёўкі ў «паўночную сталіцу» Расіі, каб падтрымаць нашу каманду. Вось толькі каментатар беларускага тэлебачання Уладзімір Навіцкі, ці як яго яшчэ клічуць аматары «сівавалосы мэтр», упарта не прызнае людзей з нацыянальнымі сцягамі за сваіх, кажучы «а вось беларускі балельшчык!» толькі тады, калі ў кадр трапляе нехта з зялёна-чырвонай тканінаю. Відавочна, што такім чынам беларусы яшчэ раз заявілі ўсяму свету (трансляцыя чэмпіянату вядзецца больш чым на 40 краінаў), што памятаюць, якая ж сімволіка ў беларусаў з'яўляецца нацыянальнай.

З іншых вынікаў, што былі зафіксаваныя на чэмпіянаце, адзначым першую за апошнія 66 гадоў перамогу нарвежцаў над пачынальнікамі хакея канадцамі з лікам 4:3 і паразу з лікам 0:3 расіянаў ад каманды ЗША, якая да таго ж гуляе далёка не ў самым лепшым складзе. ■



Піруэт канадскага нападаючага

## Футбол супраць фашызму

Аляксей СТАЎСКІ

7 траўня Беларуская Асацыяцыя маладых палітыкаў сумесна з Беларускім антыфашысцкім камітэтам будзе праводзіць турнір па міні-футболе «Кубак «Маладая Беларусь», прымеркаваны да 55-годдзя Перамогі над фашызмам у Другой сусветнай вайне. Лозунг турніру – «Моладзь супраць дыктатуры, фашызму, агрэсіі».

Адкрыццё турніру прызначанае на 12:00 на футбольнай міні-пляцоўцы «Вымпел», што ў парку Чалюскінцаў.

Удзел у розыгрышы ганаровага трафея прымуць каманды Маладой Грамады, Маладога Фронту, Грамадзянскага Форуму і, уласна, Беларускай Асацыяцыі маладых палітыкаў. Усіх аматараў гэтага віду спорту арганізатары запрашаюць у якасці гледачоў. ■

# Контроль прошлого времени

Марцин КРУЛ,
декан Варшавского университета, издатель газеты *Res Publica*

**Контролируйте прошлое, и вы будете управлять будущим. Коммунизм десятилетиями вдохновлялся этим афоризмом Оруэлла. Теперь он пустил корни в посткоммунистической Польше. Но антикоммунисты в правительстве, стремящиеся его применить, преуспели лишь в том, что расправились со своими собственными сторонниками.**

Польский вице-президент Януш Томашевский был уволен по той простой причине, что особый судья направил его дело в суд по делам о «люстрации». Томашевский был и остается прекрасным человеком, принадлежащим к бывшей оппозиции, и его сотрудничество с коммунистическими спецслужбами представляется маловероятным. Сам он отвергает любые обвинения в сотрудничестве. Тем не менее, он был вынужден уйти в отставку, поскольку его коллеги из правого крыла посткоммунистической партии Солидарности, ныне находящейся у власти, решили, что любой просто обвиненный особым судьей (даже до признания виновным) должен покинуть свой пост в правительстве, парламенте или в органах правосудия.

Люстрация в Польше — дело новое. Парламент принял этот закон в 1998 году. Теперь люди должны заявлять о своем сотрудничестве с секретными службами до 1990 года, если оно имело место. Особый судья затем проверяет правдивость их заявлений. Если же кто-то лжет или присутствуют двусмысленности, то дело отправляется в особый суд. Но единственный приговор, который может быть вынесен особым судом, — это насильственное отстранение от общественной жизни на определенное время. Этот закон применим к членам парламента и правительства, к судьям и прочим сотрудникам правоохранительных органов, которые добровольно соглашаются на проверку.

С момента принятия закон подвергался резкой критике. Он был введен в действие десять лет спустя после перехода к демократии, и архивы спецслужб очевидным образом неполны и не обязательно правдивы. Более того, закон не сумел дать адекватного определения составляющим коллаборационизма.

Мне бы хотелось добавить еще два возражения. Позвольте начать с сотрудничества. Польша не являлась Восточной Германией с ее вездесущей Штази. В Польше случаи коллаборационизма были довольно редки и сомнительны. Члены коммунистической партии по определению не могли быть коллаборационистами, а мелкая рыбешка из оппозиции, которая занималась сотрудничеством с органами спецслужб, знала недостаточно много для того, чтобы представлять опасность.

Но новый закон гласит, что



Группа молодежи забросала польский сейм листовками «агенты — в Москву»

любой, состоявший в контакте с тайной полицией, является коллаборационистом. Поэтому я также должен заявить, что состоял в контакте со спецслужбами, и не только во время тюремного заключения в 1968 году. В 1966 году сотрудники тайной полиции сделали мне предложение, от которого, по их мнению, я не мог отказаться: если я соглашаюсь на сотрудничество, то они сбросят меня с парашютом в Англии и организуют мое обучение в Оксфорде. В дальнейшем они связались бы со мной и объяснили бы, что делать в роли секретного агента. Я просто рассмеялся им в лицо, и этим дело и кончилось. Но я общался с ними, и, таким образом, мне не следует пытаться стать министром или членом парламента. С моей точки зрения, сейчас это кажется смешным, но это не смешно для политиков, которые не знают, занимались ли они, согласно закону, сотрудничеством или нет.

Люди из бывшей оппозиционной Солидарности, породившие этот закон, смешали воедино два разных понятия: декоммунизацию и люстрацию. После 1989 года поляки не видели реальной декоммунизации, и это терзает многих в AWS (Избирательном Альянсе Солидарности), являющемся крупнейшей группировкой в польской правящей коалиции. Но теперь просто слишком поздно переводить назад стрелки часов и начинать громить коммунистов.

Однако, катализатором попыток люстрации является не просто чувство мщения. Это политика, и ирония судьбы заключается в том, что принятый закон теперь обращается против его создателей. У молодых политиков чисто по возрасту не имелось возможности для сотрудничества, посткоммунистов нельзя обвинять в сотрудничестве, поскольку невозможно критиковать человека за связь с его (или ее) собственной партией. Поэтому единственными политическими жертвами этого закона будут члены относительно небольшой группы активистов Солидарности, как это и наблюдается.

Когда бы правительства ни начинали копаться в прошлом потерпевших поражение диктатур, везде, от Южной Африки до Чили и Восточной Европы, встает более общая проблема. Во всех демократических странах люди ссорятся, затем они вступают в переговоры и заключают компромиссы. Во всех демократических странах некоторых тем избегают, или по крайней мере считают их личными проблемами, как раз потому, что они неразрешимы путем компромиссов. Такими темами являются история и память. И Германия, и Франция были свидетельницами подобных дебатов после окончания Второй мировой войны, но политики (по большей части) пытались удержать их вне политики (а иногда даже и вне судебного преследования). Комиссия по доверию и примирению (элегантное решение проблемы, выработанное в Южной Африке) также пыталась, весьма героически, деполитизировать расследование политических преступлений прошлого.

Будучи историком, я знаю, что прошлое никогда не бывает однозначным; и самые неопределенные суждения касаются человеческого поведения. В обществе, в котором подавляющее большинство населения сотрудничало пассивно, активное сотрудничество трудно отличить от пассивного. Считается, что демократия должна защитить нас от раздора внутри общества; политизация памяти толкает к таким раздорам.

Принятый закон о люстрации дал молодым политикам в руки кнут, которым можно бить более старших коллег за их поведение в период сталинизма — и, возможно, продвигаться по службе, лишая постов более старых конкурентов. Действительно, воспоминания прошлого начинают привлекать все больше внимания. Телевидение использует встречу между польским и немецким президентами, встречу примирения, для того, чтобы вновь некритично представить немцев в виде кровожадных животных. Политики, интеллигенция, журналисты сосредотачиваются на прошлом, в то время как общество думает о будущем и о том, как заработать денег. В Польше такой раскол растет и становится угрожающе недемократичным. ■

**P. S.**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Па слядах суботнікаў

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

Калі чалавек на службе чакае толькі заканчэння працоўнага дня, авансу, зарплаты ды прэміі, то яго можна лёгка змусіць займацца рознымі глупствамі. Прыкладам, паехаць на нарыхтоўку «галінкавых кармоў» у калгас «Барацьба за дабрабыт» ці паганяць мятлой леташняе лісце ў парку, імітуючы прыязнасць да агульна зацверджанага сумлення.

Да нядаўняй пары на такія маніпуляцыі ахвотна пагаджаліся і школьнікі. Але зараз, калі многія з іх карыстаюцца кожнай вольнай хвілінкай, каб даведацца, што яшчэ ім можа прапанаваць Internet, ужо не тое. У правакацыйных мэтах яны патрабуюць ад настаўнікаў пры арганізацыі суботнікаў забеспячэння фронтам работ ці (мінімум) рыдлёўкамі. Паколькі гэтыя патрабаванні выглядаюць да немагчымасці здзекліва, дык і праца заканчваецца часцей не пачаўшыся.

І ўжо зусім іншая справа з новымі капіталістамі, уласнікамі сваіх прадпрыемстваў. Так, кіраўніцтва адкрытага акцыянернага таварыства БАТЭ (г. Барысаў), разгледзеўшы пытанне аб удзеле калектыву прадпрыемства ў рэспубліканскіх суботніках, вырашыла яго прынцыпова. У сувязі з адсутнасцю патрэбных задзелаў зыходных матэрыялаў ды камплектуючых работа ў выхадныя дні прызнаная немэтазгоднай. Але калі каму з працаўнікоў так ужо карціць, той можа ў фонд суботніка пералічыць свой дзённы заробак часткова або цалкам. Сабраныя такім чынам грошы, так вырашыла кіраўніцтва завода, будуць пералічаныя толькі на рахунак Цэнтральнай гарадской бальніцы Барысава.

Завадчане ў сваім рашэнні кіруюцца верагодна тым, што бальніца патрабуе рамонту, на які, як звычайна, не хапае грошай. А можа таму, што ў Барысаве яшчэ няма ўласнага Лядовага палаца. Вось людзі і баяцца, што гэтая патэнцыйна магчымая будоўля веку цалкам знясіліць гарадскі бюджэт. І на іншае грошай не застанецца, колькі суботнікаў ні праводзь. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1771 Нумар падпісаны ў друк 04/05/2000 (15:00) Наклад – 9.480